*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года**

**№ 8 (496) 21 ЛЮТАГА 2001 г.**

## У менскай гарадской...

**Аб правядзенні пікету**

**Спадару Міхаілу Паўлаву**
**Старшыні Менскага гарвыканкаму**
**# 8, пр. Скарыны, 220050 Менск**

**Менскае гарадское Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны просіць дазволу на правядзенне пікету 13 сакавіка 2001 г. Мэта пікету: прыцягнуць увагу кіраўніцтва нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі і сталічнай тэлекампаніі, іх супрацоўнікаў на роўнасць абедзвюх дзяржаўных моў пры падрыхтоўцы і выпуску ў эфір тэлерадыёпраграм.**

**Час правядзення пікету – з 16.00 да 18.00. Месца правядзення: вул. Макаёнка, 9 (на супрацьлеглым боку будынка). Колькасць удзельнікаў – да 50 чалавек.**

**Адказны за правядзенне пікету – Лавіцкі Мікалай Емяльянавіч, першы намеснік старшыні ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны", пенсіянер. Хатні адрас: 220007, г. Менск, вул. Артылерыстаў, 9-62, тэл. 224-69-13.**

**Настойліва просім месца пікетавання не мяняць.**

**Старшыня Менскай гарадской арганізацыі**
**ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Алена Анісім.**

**21 лютага ў 17.00 у сядзібе ТБМ Менская гарадская рада ТБМ імя Францішка Скарыны ладзіць прэс-канферэнцыю прысвечаную міжнароднаму святу "Дзень матчынай мовы"**

**15 лютага Сакратарыят ТБМ зарэгістраваў яшчэ дзве арганізацыі ТБМ: Мёрскую раённую і Радашковіцкую гарадскую.**

**Шаноўная грамада! Ствараецца летапіс Менскай гарадской Рады ТБМ.**

**У сувязі з гэтым вялікая просьба да тых, хто мае фотаматэрыялы (фотаздымкі літаратурных чытанняў, канферэнцый, імпрэзаў...), звязаныя з яе дзейнасцю, перадаць або пераслаць іх на адрас: 220005 г. Менск, вул. Румянцава, 13, Кажамякіну Генадзю Вячаслававічу.**

***Вы здольныя жыць лепей, жыць плённа і цікава!***

## СЕМІНАР "Я МАГУ ЖЫЦЬ ЛЕПЕЙ!"

Семінар для тых, хто жадае быць у жыцці Пераможцам!

На семінары вы спасцігнеце, як правільна вызначаць свае мэты, навучыцеся прадуктыўна складаць свае планы, падвышаць і жыватворча выкарыстоўваць свае здольнасці і схільнасці.

Вы асэнсуеце, што перашкаджае Вам у рэалізацыі Вашых памкненняў і як зараз абыйсці магчымыя перашкоды.

Перамога туліць дасведчаных, а Пераможца жыве вынікова!

Вы ў стане перамагчы абставіны!

Чакаем Вас: ст. метро "Пл.Перамогі", вул. Румянцава, 13, сядзіба ТБМ, тэл. 213-43-52, 284-85-11.

Чарговы семінар адбудзецца 10 сакавіка. Пачатак а 15 гадзіне.

Вядзе семінар Людміла Дзіцэвіч.



З задавальненнем наведваюць юныя аматары чытання з Драгічына гарадскую дзіцячую бібліятэку. Бібліятэкар Галіна Іванаўна Масальская імкнецца зацікавіць дзяцей тэматычнымі святамі кнігі, якія тут ладзяцца для юных чытачоў.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

У нейкім страху жывуць сёння многія выкладчыкі роднай мовы. Яны размаўляюць на ёй толькі ў класе, а, выйшаўшы адтуль, пераходзяць на рускую. І ў настаўніцкай, і дома, і на вуліцы.

**Міхась Тычына, "Народная воля" 23.01. 2001 г.**

*А хачу я—усяго толькі—размаўляць паўсюдна на роднай мове. Такіх жа ў нас адзінкі ( я сярод іх). Адносіна да нас жудасные. Калі ідзеш па вуліцы, дык, пачуўшы тваю гамонку, цябе могуць штурхнуць, нават ударыць, абразіць грубым, жорскім словам.*

***МАРА г. Лунінец, "Народная воля" 23.01.2001 г.***

Яны (рускія чыноўнікі), ужо сёння фактычна зліквідавалі магчымасць выбару мовы навучання і выхавання нашых дзяцей: знішчылі беларускія школы, класы і плыні ў вузах, не адчыняюць універсітэт з беларускай мовай навучання.

**Мікалай Віктараў, "Народная воля" 23.01.2001 г.**

*Напачатку свайго святарства ў Беларусі кс. Чарняўскі не думаў, што сутыкнецца са значнымі праблемамі. Яшчэ да пераезду ён паставіў умовы дэлегацыі вернікаў, што будзе гаварыць у касцёле па-беларуску. Калегі-ксяндзы за беларускую мову ў касцёле называлі камуністам… Практычна кс. Чарняўскі быў адзіным, хто паслядоўна з сярэдзіны 50-х і па канец 80-х гг. адстойваў беларускую мову ў казаннях і навуках.*

***Алег Гардзіенка,"Наша ніва" 21.01.2001 г.***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

**Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на другі квартал. Цана пакуль не зменена, але рыхтуецца да выхаду Дадатак да каталогу. Мы не падымалі сваю цану, але Белпошта ізноў падняла кошт сваіх паслугаў на 20%. Цана вырасце аўтаматычна. Таму спяшайцеся падпісацца загадзя. Усе, хто дашле копіі квіткоў падпіскі, атрымаюць ад ТБМ памятныя падарункі: кніжкі, каляндарыкі, паштоўкі. Усім бібліятэкам, якім улады не выдзеляць грошай на падпіску на "Наша слова", мы раім запоўніць падпісны аркуш і дашлём па адрасу: сядзіба ТБМ, вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005. Сакратарыят ТБМ прыкладзе ўсе намаганні каб арганізаваць падпіску для вас.**

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** ( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| **Кошт** | падпіскі | 645 руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)





# Каляндар лютага

## Слаўны юбілей

Пятага лютага споўнілася 85 гадоў ад дня нараджэння беларускага педагога і лексікографа Валянціны Пашкевіч. Яе радзіма – Пружаны, што на Берасцейшчыне. Тут яна атрымала першапачатковую адукацыю: закончыла польскую пачатковую школу і гімназію імя Адама Міцкевіча гуманітарнага тыпу. Затым – была Вільня. Тут спадарыня Валянціна вучылася ў Віленскім універсітэце спачатку на факультэце класічнай філалогіі, дзе спасцігла лацінскую і грэчаскую мову і літаратуру, культуру Рыма і Грэцыі; а затым перайшла на фізіка-матэматычнае аддзяленне. Тут яна ўключылася ў вірлівае на той час, беларускае жыццё Вільні. Сталася сяброўкай Беларускага Студэнцкага Саюзу, ва ўправе якога была скарбнікам. Наведвала лектарат беларусаведа Янкі Станкевіча ў Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча, дзе выконвала функцыю праваднікa, калі ў гэтым была патрэба.

У верасні 1939 года Заходнюю Беларусь акупавалі. Сталін адрэзаў Вільню – сэрца Беларусі – ад беларускай нацыянальнай тэрыторыі і аддаў яе Жмудзі. Увосень, калі прыйшоў час ехаць на універсітэт, вядомая беларуская дзеячка Кацярына Стаўбнік сабрала студэнтаў Пружаншчыны і сказала: "Дзеці, цяпер не час вучыцца. Усім трэба ісці ў школы выкладаць беларускую мову. Інакш у школах Пружаншчыны беларускай мовы не будзе". Валянціне давялося быць настаўніцай роднай мовы і літаратуры ў былой польскай гімназіі, дзе калісь вучылася сама. Апрача таго яна выкладала беларускую мову для настаўнікаў, былых сваіх прафесараў.

Спадарыні Валянціне, як і шматлікім сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу, было наканавана пакінуць Беларусь. З ліпеня 1949 года яна жыве ў Таронта. Тут спадарыня Валянціна – актыўная сяброўка Згуртавання Беларусаў Канады. У 1950 годзе, як сакратарка Другога Агульнага З'езду сяброў, яна дакументуе важную падзею першай нацыянальнай беларускай арганізацыі.

Валянціна Пашкевіч арганізуе беларускі нацыянальны гуртoк, суботнюю школу пры царкве Святой Еўфрасінні Полацкай, якую вядзе цягам 15 гадоў, складае "Першую чытанку пасля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў". Яна – аўтарка англамоўнага падручніка "Беларуская мова", адзінага найбольш поўнага курсу беларускай мовы для навучальных мэтаў за межамі Беларусі. Дарэчы, асобнік гэтага падручніка ёсць у бібліятэцы Таварыства беларускай мовы. Справай жыцця Валянціны Пашкевіч сталася праца па падрыхтоўцы вялікага, каля 50.000 слоў, "Англа-беларускага слоўніка", выданнем якога займаецца Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў ЗША.

Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе вельмішаноўную спадарыню Валянціну Пашкевіч з слаўнымі ўгодкамі жыцця і жадае доўгага веку ды добрага здароўя, аптымізму і бадзёрасці.

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ.*

# Новая кніга вядомага навукоўца

Выдавецкая суполка "Лекцыя" падрыхтавала да друку цікавую навукова-папулярную працу вядомага гісторыка і археолага; грамадскага дзеяча, Старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Беларускага Універсітэта культуры Алега Трусава **"Манументальнае дойлідства Беларусі XI – XVIII стагоддзяў: гісторыя будаўнічай тэхнікі"**.

Упершыню ў беларускіх гістарычных даследваннях падаецца падрабязная характарыстыка ўзнікнення і развіцця мясцовых будаўнічых матэрыялаў (цэглы, дахоўкі, плітак для падлогі, кафлі, апрацаванага каменю).

Аўтар апавядае пра арганізацыю ў сярэднявеччы будаўнічай працы, прасочвае эвалюцыю будаўнічых канструкцый і малых архітэктурных формаў.

Галоўны раздзел кнігі прысвечаны асвятленню асноўных этапаў будаўнічай дзейнасці на землях Беларусі на працягу Сярэднявечча і Новага часу.

Выданне багата ілюстраванае арыгінальнымі фотаздымкамі.

Аб'ём кнігі 208 старонак. Папярэдні кошт 3000 рублёў.

Алег Трусаў – адзін з самых вядомых у Беларусі і за яе межамі даследчыкаў беларускай архітэктуры і гісторыі матэрыяльнай культуры Сярэднявечча і Новага часу, напісаў больш за 10 навуковых манаграфій і каля 250 артыкулаў на гэтую тэму.

Папярэдні запіс на кнігу ў сядзібе ТБМ з 15 да 19 гадзін (акрамя выхадных). Т. 2-84-85-11.

# З клопатам пра Бацькаўшчыну

У студзені 1966 года ў Таронта быў заснаваны Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады як рэпрэзантант беларускіх арганізацыяў. З 1990 года яго ўзначальвае др. Раіса Жук-Грышкевіч. ККБК ёсць верным ідэалам 25 сакавіка, дбае пра развіццё беларускіх культурных вартасцяў, як беларускае мовы, літаратуры, гістарычнае памяці. Цягам сваёй 34-гадовай дзейнасці Камітэт і ягоныя арганізацыі працавалі над тым, каб у Канадзе ўсцяж, дзе толькі магчыма, праяўлялася беларуская культура; каб след дзейнасці беларускага грамадства ў Канадзе не згубіўся і быў падмуркам у працы наступных пакаленняў; каб памагаць змагарам за волю Беларусі на Бацькаўшчыне.

У 1967 годзе ККБК дамогся права афіцыйна ў Статыстыцы Канады быць названымі Беларусамі. А 25 сакавіка 1970 года стараннем ККБК першы раз у гісторыі ля ратушы Таронта быў узняты бел-чырвона-белы сцяг. Традыцыя жыве па сёння.

У 1974 і 1978 гадах Выдавецкі Камітэт пры ККБК выдаў два тамы англамоўнага падручніка Валянціны Пашкевіч "Беларуская мова".

У 1979 годзе была скарэгаваная памылка ў дакументах Крыніц Статыстыкі Канады, дзе беларуская мова фігуравала, як дыялект расейскай. Цяпер яна фігуруе, як апрычоная мова.

У другой палове 80-х гадоў узмацняецца сувязь з Бацькаўшчынай. Артыкул Зянона Пазьняка ў ЛіМе "Курапаты – дарога смерці", нацыянальны рух моладзі ў Беларусі, аварыя на Чарнобыльскай АЭС знайшлі водгук у беларускім замежжы, у Канадзе. Трэба было інфармаваць свет пра тое, што Беларусь пацярпела ад радыяцыі найболей. У Атаве Старшыня ККБК Раіса Жук-Грышкевіч зрабіла абшырны даклад пра наступствы Чарнобылю ў Беларусі. Распачался праца па арганізацыі дапамогі пацярпелым, якая працягваецца і цяпер. Камітэт зрабіў значны фінансавы ўклад у выданне кнігі Зянона Пазьняка "Курапаты", якая задакументавала генацыдныя злачынствы камуністычнага тэрору ў Беларусі. У 1998 годзе ККБК стаў сябрам арганізацыі "Канадыйцы за музей генацыду", якая дамагаецца ад ураду Канады стварыць такі музей генацыду, каб ён уключаў і аддаваў пашану памяці ахвяр генацыду ўсіх народаў, а не толькі аднаго.

У 1997 годзе Камітэт арганізаваў памінальныя ўрачыстасці, каб аддаць пашану памяці паэткі Наталлі Арсенневай. Быў заснаваны Фонд Памяці Наталлі Арсенневай. У 1998 годзе Камітэт ладзіў таксама ўрачыстасць памяці грамадска-нацыянальнага ды навуковага дзеяча, скарынаведа Вітаўта Тумаша. Камітэт бярэ адкрыты ўдзел у шматкультурных фестывалях, што адбываюцца ў розных гарадах Канады, а таксама ў кангрэсах і навуковых канферэнцыях у Беларусі. ККБК выдае штомесячныя камунікаты, якія інфармуюць пра жыццё, дзейнасць ды гісторыю беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Канадзе і рассылаюцца ў іншыя краіны ўлучна з Беларуссяй. Важнай галіной працы Камітэту ёсць ліставанне, у тым ліку і з Таварыствам беларускай мовы.

У кароткай інфармацыі мы не можам зрабіць поўны агляд дзейнасці Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады праз дзесяцігоддзі яго існавання. Зазначым толькі адно, што праца ККБК скіраваная на культываванне беларускай мовы, культуры і нашай гістарычнай спадчыны вядомая далёка за межамі Бацькаўшчыны.

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ*

# Розніца дзён паміж грыгарыянскім і юліянскім календарамі

**(або "Каляндарныя памылкі Алеся Лозкі")**

У газеце "Наша слова" у канцы 2000 года быў змешчаны артыкул Алеся Лозкі, у якім гаварылася, што ў праваслаўных каляндарах на 2001 год і ў праваслаўных пасхаліях на XXI стагоддзе няправільна бярэцца лічба 13 у розніцы паміж грыгарыянскім і юліянскім календарамі. Аднак памылку дапускае сам Алесь Лозка. У чым жа сутнасць яе?

Яшчэ ў школе нас навучылі, што за кожнае стагоддзе розніца паміж юліянскім і грыгарыянскім (старым і новым стылямі) павялічвецца на адзін дзень. Аднак гэта не зусім так, бо існуюць і выключэнні.

У Беларускім гістарычным часопісе (№4 за 1998 г.) быў надрукаваны артыкул Васіля Маладцова "Вечны каляндар", дзе даецца табліца "разыходжання паміж старым і новым стылямі ў днях па стагоддзях". А адпаведнасць дат (або розніца ў днях паміж стылямі) вылічваецца па формуле:

**$N=C-(C^1:4)-2$**, дзе

**N** – лік дзён, які трэба дабавіць да даты па старым стылі,

**C** – лік поўных стагодзяў;

**$C^1$** - бліжэйшы лік мінулых стагоддзяў, які дзеліцца на 4.

Такім чынам, для XX ст. атрымаем: 13=19 – (16:4) – 2

Для XXI ст. зноў 13 дзён. 13=20 – (20:4) – 2

А вось для XXII ст. розніца ў стылях будзе ўжо 14 дзён. 14=21 – (20:4) – 2.

Справа ў тым, што юліянскі каляндар існуе незалежна ад грыгарыянскага.

Нашым чытачам варта нагадаць яшчэ адно выключэнне ў вызначэнні высакосных гадоў. Мы ведаем, што калі апошнія дзве лічбы года дзеляцца на 4, дык год высакосны. А як быць калі замест 2 лічбаў там 2 нулі – год, які завяршае стагоддзе. У такім выпадку высакоснымі лічацца толькі тыя гады з 2 нулямі, у якіх колькасць стагоддзяў (першыя дзве лічбы) дзеліцца на 4.

Высакоснымі былі 1600, 1984, 1988, 2000 гады. Будуць высакоснымі 2004, 2008 гады.

*Сымон Барыс, рэдактар "Беларускага гістарычнага часопіса".*

| Разыходжанні паміж старымі і новымі стылямі | | | Розніца ў сутках |
|---|---|---|---|
| Стагоддзе | ад 01.03 | да 29.02 | |
| I | 1 | 100 | -2 |
| II | 100 | 200 | -1 |
| III | 200 | 300 | 0 |
| IУ | 300 | 400 | +1 |
| У | 400 | 500 | 1 |
| УI | 500 | 600 | 2 |
| УII | 600 | 700 | 3 |
| УIII | 700 | 800 | 4 |
| IX | 800 | 900 | 4 |
| X | 900 | 1000 | 5 |
| XI | 1000 | 1100 | 6 |
| XII | 1100 | 1200 | 7 |
| XIII | 1200 | 1300 | 7 |
| XIУ | 1300 | 1400 | 8 |
| XУ | 1400 | 1500 | 9 |
| XУI | 1500 | 1600 | 10 |
| XУII | 1600 | 1700 | 10 |
| XУIII | 1700 | 1800 | 11 |
| XIX | 1800 | 1900 | 12 |
| XX | 1900 | 2000 | 13 |
| XXI | 2000 | 2100 | 13 |
| XXII | 2100 | 2200 | 14 |
| XXIII | 2200 | 2300 | 15 |
| XXIУ | 2300 | 2400 | 16 |
| XXУ | 2400 | 2500 | 16 |

**Васіль Маладцоў.** Вечны каляндар. *Белаларускі гістарычны часопіс, № 4 за 1998, с.117.*



**Адзінаму ў Рагачоўскім раёне сельскаму Дому культуры вёскі Курганне прысвоена найменне Цэнтра народнай творчасці. Больш 40 вясковых школьнікаў вучацца тут майстэрству пляцення з лазы і саломкі. Кіруе гуртком Ларыса Цішкова. На здымку: дырэктар народнай творчасці з вёскі Курганне Ларыса Цішкова і метадыст Ірына Афанасенка. Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**



№ 8 (496) 21 ЛЮТАГА 2001 г. Наша слова

**Сяргей Запрудскі,** намеснік старшыні Рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі

# Да суадносінаў рацыянальнага і эмацыянальнага ў дзейнасці ТБМ

## (голас у дыскусіі наконт стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі)

### 1. Зайздроснае

За некалькі дзён да чацвёртага з'езду ТБМ, у кастрычніку 1995 года ў рэдакцыю часопіса "Нёман", дзе я тады працаваў, завітаў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Прывёў яго да нас нейкі пісьменніцкі клопат, але гаворка зайшла і пра будучы з'езд, які павінен быў стаць важным форумам для глыбокага абмеркавання лёсу беларускай мовы пасля праведзенага ў траўні ганебнага рэферэндуму.

Праўда, адразу ж высветлілася, што Янка Брыль не зможа ўдзельнічаць у працы з'езда. Кіруючыся лепшымі намерамі, я папрасіў яго выкласці свае меркаванні наконт будучага ўсталявання беларускай мовы на паперы, дзеля таго, каб іх можна было давесці да ведама ўдзельнікаў з'езду. Янка Брыль строга паглядзеў на мяне і сказаў: ***што рабіць, мы ўсе добра ведаем, як і добра ведаем тое, чаму атрымалася не так, як нам хацелася б.*** І яшчэ раз строга зірнуў на мяне.

Так дэлегаты чацвёртага з'езду ТБМ не даведаліся пра погляды на ўладкаванне беларускай мовы чалавека, які стаяў ля вытокаў нашай арганізацыі. А я застаўся з пачуццём вострай зайздрасці да нашага славутага пісьменніка: для яго тое, што і як нам трэба рабіць, — гэта аксіёма (ці, карыстаючыся тэрміналогіяй 20-х гадоў, *пэўнік*). Для мяне ж гэта – тэарэма з многімі невядомымі.

### 2. Іранічнае

Адразу ж пасля моўнага рэферэндуму, у чэрвені 1995 года ў Доме літаратара прайшло паседжанне "круглага стала" "Лёс роднай мовы і задачы грамадскіх арганізацый". На гэтым паседжанні было выказана шмат цікавых, каштоўных думак. Удзельнікі абмеркавання, яны ж *руплівцы беларускай мовы,* мужна закляймілі "лукашысцкі рэжым" і пастанавілі "правесці агульнанацыянальную канферэнцыю з мэтай выпрацоўкі стратэгіі і тактыкі сумесных дзеянняў для абароны роднай мовы".

Ці не ўпершыню тэбэзмаўскае кіраўніцтва выказалася тады за неабходнасць аб'яднаць пад сваёй эгідай як мага больш значны інтэлектуальны, арганізацыйны і людскі патэнцыял, які меў быць скіраваны дзеля дабра беларускай мовы. Несумненна, такі чын спрыяў бы лепшай арганізацыі дзейнасці Таварыства. Да гэтага кроку руплівцаў беларускай мовы змусіла сітуацыя, у якой наша мова аказалася пасля рэферэндуму: бараніцца ад пажару трэба гуртам, талакой. Адначасова не пашкодзіць добра ўзважыць, якія напрамкі і ўчасткі барацьбы будуць найбольш эфектыўнымі, — а якія можна занядбаць. Падазраю, што, чапляючыся ў кастрычніку 1995 года да Янкі Брыля з просьбай падзяліцца сваімі думкамі наконт будучыні беларускай мовы, я несвядома кіраваўся ўсё тым жа пунктам рэзалюцыі "круглага стала", які заклікаў сабрацца ўсім разам і добра разважыць, як жыць далей. Я спрабаваў вывудзіць разумныя думкі разумнага чалавека, з чаго маглі б спажываць мы ўсе.

Мінае ўжо шосты год, а нешта не чуваць, каб руплівцы беларускай мовы склікалі нейкі форум, які хоць бы аддалена нагадваў той, які абяцаўся ў адпаведным пункце пастановы. Зрэшты, актыўнасці за гэты час, не бракавала, але яна была, бадай, пераважна без прэтэнзій на "агульнанацыянальнасць" або на выпрацоўку стратэгіі ці хаця б тактыкі. Магчыма, выпусціўшы праведны гнеў і пакінуўшы залу Дома літаратара, руплівцы беларускай мовы адразу ж забыліся на ўласнае рашэнне? А, можа, турбуе думка, яны і без агульнанацыянальнай канферэнцыі ведалі, *што рабіць і чаму атрымалася не так, як нам хацелася б*

Далібог, я і сёння не ведаю, чым жа быў той няспраўджаны пункт рэзалюцыі: шчырым імкненнем паддаць сітуацыю карпатліваму і праўдзіваму аналізу ці больш данінай адпрацоўкі статусу руплівцаў беларускай мовы, які абавязвае гаварыць не інакш як прыгожыя словы і прымаць неадменна мужныя рэзалюцыі?

### 3. Рамантычнае, яно ж утапічнае

Вельмі хочацца, каб кастрычніку 2000 года было наканавана застацца ў гісторыі ТБМ як часу, калі пачалася шырокая дыскусія з нагоды стратэгіі развіцця беларускай мовы ў будучыні. Спадзявацца на тое, што так яно і адбудзецца, дазваляюць тры акалічнасці. 1. Публікацыя 7 кастрычніка ў "Звяздзе" артыкула Леаніда Лыча "Сем пазіцый выратавання беларускай мовы". 2. Прыняцце пастановы Рады ТБМ ад 14 кастрычніка аб неабходнасці распрацаваць стратэгію развіцця беларускай мовы. 3. Публікацыя 18 кастрычніка ў "Нашым слове" артыкула Уладзіміра Кошчанкі "Да пытання аб стратэгіі развіцця беларускай мовы: Што дае валійскі досвед". Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца публікацыі Л. Лыча і У. Кошчанкі. Пастанова Рады ТБМ пакуль яшчэ падзея "віртуальная", і патрэбен, прынамсі, час, каб яна ўвасобілася ў канкрэтныя чыны. Публікацыі ж Лыча і Кошчанкі ўжо сёння з'яўляюцца вельмі добрай асновай для разгортвання дыскусіі. Леанід Лыч, бадай, ці не ўпершыню за апошні час выклаў свае думкі сцісла і структуравана, па пунктах, што вельмі добра: падчас распрацоўкі стратэгіі надзвычай важным будзе вызначыць прыярытэты, якіх не павінна быць вельмі многа. Што ж да артыкула пра валійскую стратэгію, то пры яго разглядзе варта памятаць, што яго аўтар не прапануе ўласнай стратэгіі развіцця беларускай мовы. У. Кошчанка выкладае стратэгію развіцця іншай мовы, падрыхтаваную і рэалізоўваную ў іншых умовах і ў іншым асяроддзі, мяркуючы, аднак, што гэты досвед можа быць карысным і для беларускай сітуацыі. Далей я спынюся толькі на асобных пунктах, зафіксаваных у артыкулах Лыча і Кошчанкі.

Дык вось жа пра ўтапічнае.

Трэці пункт артыкула Леаніда Лыча прысвечаны адукацыйнаму блоку будучай дзяржаўнай праграмы, падрыхтаванай дзеля выратавання беларускай мовы. У гэтым пункце гаворыцца пра перавод на беларускую мову ўсіх тыпаў устаноў выхавання і адукацыі. Аўтар артыкула "Сем пазіцый выратавання беларускай мовы" лічыць, што ў сферы адукацыі беларуская мова павінна заняць такое ж месца, якое займае ў адукацыйнай сістэме Расіі расійская мова, у Польшчы – польская, у Літве – літоўская, у Чэхіі – чэшская, у Францыі – французская. А тое, як вярнуць роднае слова беларусаў у сістэму грамадскага выхавання і навучальныя ўстановы, паводле Леаніда Міхайлавіча, гэта *пэўнік* і яго "тлумачыць не трэба, бо гэта вельмі дасканала выкладзена ў Законе аб мовах Беларускай ССР".

Пакідаючы ў баку фундаментальнае пытанне пра тое, чаму *цяперашняя* беларуская дзяржава *не можа* займацца пераводам на беларускую мову ўсіх тыпаў устаноў выхавання і адукацыі, я звярну ўвагу на спосаб пераканання тыпу таго, што "беларуская мова павінна займаць у Беларусі такое ж месца, якое ў краінах А, Б і В займаюць мовы А, Б, і В".

Першае, што кідаецца ў вочы ў дадзеным выпадку, дык гэта неаднароднасць моў і краін, абраных Л. Лычом у якасці ўзораў-аналогій.

Расійская і французская мовы ўжываюцца ў такіх вялікіх краінах як Францыя і Расія, у некаторых рэгіёнах гэтых дзяржаў (Брэтані, Эльзасе, Башкірыі, Татарыі і г.д.) гэтыя мовы сутыкаюцца з мясцовымі мовамі, у рознай ступені канкуруючы з імі. На "падуладных" тэрыторыях французская і расійская мовы нярэдка проста "выжылі" некаторыя іншыя мовы; акрамя таго, яны ўжываюцца на тэрыторыях па-за межамі Расіі і Францыі (у Беларусі, Украіне, Бельгіі, Алжыры і г.д.) Нарэшце, расійская і французская мовы з'яўляюцца афіцыйна прызнанымі ў некаторых міжнародных арганізацыях. Амаль нічога падобнага нельга сказаць пра польскую, літоўскую і чэшскую мовы.

Тое, што аўтар артыкула "Сем пазіцый выратавання беларускай мовы" аперыруе такімі разнароднымі прыкладамі, сведчыць, відаць, пра тое, што яго не цікавяць дэталі і нюансы. У дадзеным выпадку яму больш істотна праклamaваць прынцып, які ў Ніла Гілевіча выглядае наступным чынам: **"Трэба, каб у Беларусі запанавала беларуская мова".**

З пункту гледжання патрыятычнай рыторыкі выказванні падобнага тыпу можна ацэньваць станоўча, аднак гэта ж нельга сказаць, калі мы будзем падыходзіць да такіх праклamaцый з пункту гледжання прагматызму. Беларуская мова не можа займаць такое ж месца ў Беларусі, якое займае ў Польшчы польская, а тым больш французская ў Францыі і расійская ў Расіі. (На гэта ёсць занадта многа прычын, пра якія тут гаварыць не выпадае. Акрамя таго, частка з гэтых прычын пазначаны вышэй і ўвогуле з'яўляюцца занадта відавочнымі, каб трэба было на іх спыняцца спецыяльна.) Больш за тое: малаверагодна, што статус беларускай мовы сёння можа быць узняты хоць бы да ўзроўню, які мае ўкраінская мова. (Такое параўнанне магло б быць больш абгрунтаваным, аднак у пераліку Л. Лыча ўкраінская мова і Украіна адсутнічаюць.)

Паважаны Леанід Міхайлавіч, акрамя таго, зусім ігнаруе тую акалічнасць, што нават і ў названых ім "беспраблемных" краінах "тытульныя" мовы змушаны ў той ці іншай ступені дзяліцца сваёй уладай з іншымі канкурэнтаздольнымі мовамі-гігантамі. Для Чэхіі, Літвы і Польшчы ўсё большае значэнне апошнім часам набываюць ангельская і нямецкая мовы; нават французская мова змушана прымаць адмысловыя захады, баронячыся ад ціску ангельскай. Бадай, толькі статус расійскай мовы ў Расіі пакуль не падлягае вельмі значнаму ціску з боку іншых міжнародных моў, але гэта, мне здаецца, адбываецца перадусім таму, што Расія памылкова лічыць расійскую мову дастатковай і абмяжоўвае пранікненне на сваю тэрыторыю іншых моў шляхам адміністрацыйнага рэгулявання. Пытанне "доступу" на беларускую тэрыторыю і перадусім у сферу адукацыі такіх моў як ангельская і нямецкая (дзе яны маглі б значна падціснуць расійскую) я не лічу асабліва пустым і мяркую, што яно таксама вартае абмеркавання.

Адпаведна, падчас распрацоўкі стратэгіі развіцця беларускай мовы няшкодна будзе цвяроза вызначыць (калі не на паперы, то, прынамсі, у галаве) месца і статус поруч з беларускай іншых моў і ў першую чаргу расійскай. Рыторыка тыпу **"трэба, каб беларуская мова запанавала ў Беларусі"** мала таго, што ігнаруе некаторыя вельмі важныя існыя спецыфічныя асаблівасці сацыялінгвістычнага статусу беларускай мовы, дык яшчэ, акрамя таго, можа проста дэзарыентаваць таго, хто будзе ставіць такія задачы.

### 4. Валійскае

Валійскую стратэгію распрацоўвалі людзі, якія праклamaванню гучных лозунгаў аддалі перавагу халоднай развазе і разліку. У валійскай стратэгіі акрэслены канкрэтныя сферы, дзе найбольш патрэбна было б ажыўленне мовы, і вызначаны канкрэтныя спосабы рэалізацыі канкрэтных задач. Паводле старшыні выканаўчай рады Камітэта валійскай мовы Джона Вальтэра Джонса немагчыма законам увесці мову ў жыццё, затое можна законам увесці жыццё ў мову. Праца валійскіх дзеячоў праводзіцца з непасрэднай апорай на экспертныя ацэнкі стану валійскага грамадства, яго стаўлення да праблем развіцця валійскай мовы, яго гатоўнасці прыняць і падтрымаць тыя або іншыя захады.

### 5. ...І сусветнае

Славуты навуковец, жывы класік сучаснай сацыялінгвістыкі, аўтар выдатнай працы пра адраджэнне колісь прыдушаных моў Джошуа Фішман у адным са сваіх артыкулаў неяк быў ужыў выраз, які можна разглядаць як неадпаведны для навуковага жанру. У сваёй працы "Планаванне статусу для загрожаных моў" лінгвістаў, якія руплюцца пра ўнутраную разбудову мовы і адначасова не зважаюць на праблемы статусу гэтай мовы, ён назваў "неразумнымі" (у арыгінале ўжыта, бадай, больш "недыпламатычнае" слова), а шырока культываванае шматлікімі моўнымі рухамі зачароўванне атмасферай хатняга агменю ён кваліфікаваў як "сляпое рамантычнае захапленне этнічных прастафіляў". Хоць Фішман знаёмы з некаторымі працамі па беларусістыцы, у дадзеным выпадку ён, верагодна, не адрасаваў свае закіды дзеячам беларускага моўнага руху. Але ці ж не прыйшла пара і нам у сваёй дзейнасці не быць прастафілямі, кіравацца наперад падрыхтаванай і добра прадуманай праграмай? Выпрацоўцы такой праграмы, уласна, і мае служыць ініцыятыва падрыхтоўкі стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.

У гэтай вялікай працы будуць карысныя і вітаныя любыя канкрэтныя прапановы ўсіх сяброў Таварыства і, увогуле, шырокай грамадскасці.



Менск. Беларускія эмоцыі... Фота Віктара Талочкі, БелТА.

№ 8 (496) 21 ЛЮТАГА 2001 г. наша СЛОВА

Язэп Палубятка

# АУРАЛЕСІЦА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Хоць "Станцыя хуткай дапамогі" не была непасрэдна падначалена галоўнаму ўрачу райбальніцы (там быў свой галоўны урач), абставіны склаліся так, што ўсе пытанні, якія ўзнікалі на станцыі, прыходзілася вырашаць непасрэдна самому Улановічу. Пачуўшы мянушку свайго былога сябра па інстытуту, ён цвёрда вырашыў: "Выганю! Каб яго нагі тут не было. Выганю! Хопіць з ім валэндацца. Не дазволю бэсціць савецкую медыцыну."

Першы сакратар райкама для большай упэўненасці, што яму будзе пастаўлены правільны дыягназ, вырашыў распавесці пра тое, як экіпаж "Хуткай дапамогі" — там, дарэчы, быў гэты Банік — вёз яго ў лякарню.

Каб лепей бачыць твар свайго субяседніка, Крыніца павярнуўся на левы бок, і, нібы ў час выступлення, пачаў дапамагаць языку рукою.

Частка качкі, якая ляжала пад бокам, пакацілася на свабоднае месца.

Крыніца ў падцверджанне слоў паказаў на галаве гузак, а затым для большага ўражання, вырашыў артыстычна ўпасці на ложак, каб засведчыць, як гэта ўсё адбылося на самай справе.

І ўпаў ... Ды нема зароў, і адразу ж падхапіўся.

Недаедзеная качка ўперлася абрубкам нагі ў спіну. Каб не сканфузіцца дарэшты, Крыніца зрабіў выгляд, што яму моцна кальнула, і схапіўся рукою за бок, а сам употайкі адсунуў ад сябе качку і ўжо асцярожна лёг.

Само сабой зразумела, размова перайшла на хваробу.

— Урэшце, на што скардзіцеся? — нясмела запытаў галоўны урач.

— Вось бачыце! Як схопіць, не ведаю, куды падзецца.

— Цудоўна! Мы вас тэрмінова адправім у вобласць і там пакажам першакласным спецыялістам.

— Вы ведаеце, мой доктар, які заўжды лячыў мяне, пайшоў на пенсію. Спецыяліст ад бога, такіх пашукаць трэба. І душа чалавек. Што не папрасі, усё дастане, як машыну, як ...

Крыніца зразумеў, што сказаў глупства, але на дапамогу яму прыйшоў галоўны ўрач:

— Якіх толькі назваў зараз лекам не даюць.

— Так - так, — пагадзіўся Антон Пятровіч. — Чорт нагу зломіць, а чалавек язык, пакуль прачытае.

Сцяпан Сцяпанавіч так і не зразумеў, пры чым тут чортава нага, але прамаўчаў.

— ... А галоўнае — паставіць такі дыягназ, які табе патрэбны, — рашуча закончыў першы.

— Гэта і мы можам, — пахваліўся галоўны. — Вылечыць як папала, а напісаць - напішам усё, што запатрабуе хворы.

— Іншым у вобласці я не давяраю ...

— Тады мы вас накіруем у рэспубліку. На абследванне.

— Вы ведаеце, — і з кожным "вы ведаеце" ў Крыніцы голас станавіўся ўсё болей жаласлівы. — Я сябе дрэнна адчуваю. Мне здаецца, што я не змагу перанесці дарогу.

"О, божа! — з жахам падумаў Улановіч. — Яго адсюль і трактарам не выцягнеш. Хутчэй нагамі ўперад... Але гэтага бугая і абухам не заб'еш".

Сцяпан Сцяпанавіч зразумеў, што пазбавіцца ад Крыніцы яму не ўдасца. Ён нават не зможа перавесці яго адсюль у другую палату. Гэта была звычайная драма, якая праз паўгадзіны ператварылася ў жыццёвую трагедыю.

Сёння ў гэтую палату павінна была легчы на так званае абследаванне чарговая каханка Улановіча.

Калі быў маладзейшым, Сцяпан Сцяпанавіч у такіх выпадках выязджаў "на прыроду", а яго любімай песняй у тыя часы быў маленькі куплецік, які ён пачуў няведама дзе. Гэтую просценькую мелодыю ён часта мармытаў сабе пад нос, і яна была гімнам яго чарговай перамогі: "Яе кусалі мурашы, мяне кусалі камары".

Усе выезды ў лес адбываліся на казённай машыне. Пасля кожнай такой паездкі ўзнікала неабходнасць мяняць лабавое шкло. Балазе, яно ў той час не было такім дэфіцытам.

Шкло мянялі даволі часта.

Пасля кожнага выезду Улановіча "на прыроду" прыбягала яго жонка і, як звычайна, не заставала ў бальніцы свайго суджанага — паспяваў схавацца. Таму са злосці яна пачынала біць шыбы яго службовай машыны.

З тых часоў за жонкаю Улановіча трывала замацавалася мянушка — шкляryха.

Каб пакончыць вечнае змаганне жонкі са службовай машынай, у галоўнага ўрача райбальніцы ўзнікла слушная думка, якая вельмі спадабалася раённаму кіраўніцтву. Для ўзнікнення такой думкі была яшчэ адна прычына: балюча кусалі камары ды з гадамі знік спартанскі дух, а яго гарэзлівая натура пачала патрабаваць пяшчоты кахання у цішыні чатырох сцен і на мяккім ложку ... Дзесьці ў гэты час у тутэйшай лякарні з'явілася асобная палата для лячэння мясцовых начальнікаў, хоць сапраўднае яе прызначэнне ведаў толькі адзін чалавек — Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч. І даў назоў: "Востраў кахання".

Ламаліся ўсе планы. Галоўны ўрач з болем у сэрцы канстатаваў: прычыну захворвання пацыенткі яму так і не ўдасца ўстанавіць, і вырашыў хоць даведацца прычыну захворвання першага сакратара райкама партыі.

— Даўно гэта ў вас?

— Млявасць адчуваю працяглы час, але прыступы пачаліся толькі ўчора.

"Пэўна, будзе камісія і, відаць, даведаўся ён пра яе толькі ўчора", — зазначыў для сябе Улановіч і запытаў далей:

— Колькі іх ... ну, прыступаў было ...

— Шэсць.

" Добрая каманда. Праўда, тут калі ўзяцца па-сур'ёзнаму, то і дзесяць чалавек мала".

— Праца, Антон Пятровіч, праца нас згубіць. Працуем не шкадуючы сябе. Я спадзяваюся, што ў нас вам будзе аказана кваліфікаваная дапамога, але тое, што адбылося ноччу, — проста непаразуменне. Вінаватыя будуць пакараны, абяцаю.

— Я таксама спадзяюся на гэта ... Хочацца крыху спакою. Ведаеце, перабудова, такі напружаны час ...

" Значыць, нас, дзякуй богу, трэсці не будуць", — крыху павесялеў Сцяпан Сцяпанавіч.

— Але ж мне патрэбны правільны дыягназ. Гэта вельмі важна, а то ўсе: пенсіянер, пенсіянер. Я спадзяваюся, што вы мяне зразумееце правільна.

"Разумею, чаму не. Ды яшчэ як! Вытурыць цябе хочуць не таму, што ты пенсіянер, а таму, што ты злодзей".

— Арганізуем, арганізуем. Доктарам да вас прызначу Сяргея Іванавіча Астапчыка. Малады, здольны...

— На яго можна спадзявацца?

— Вядома.

— А як наконт даверальнай размовы?

— Характарызую станоўча. Не п'е, не курыць, двое дзяцей, не мае кватэры...

— Не мае кватэры? Цудоўна. Тады я ўпэўнены, што ён зможа паставіць мне правільны дыягназ.

На развітанне Крыніца моцна паціснуў руку галоўнаму ўрачу і зноў запэцкаў яе ў тлушч. Ужо за дзвярыма Улановіч доўга цёр далонь насоўкаю і напаўголаса лаяў першага сакратара.

Сцяпан Сцяпанавіч хвілін пяць нервова тупаў з кута ў кут па кабінеце, крыху супакоіўся і вырашыў урэшце патэлефанаваць сваей хворай пацыентцы, каб мець непрыемную для сабе размову.

У Веры Стрэльчанкі сёння з ранку быў цудоўны настрой. Яна ўстала на досвітку, старанна памылася пад душам, пакуль была яшчэ цёплая вада, зрабіла ўкладку, манікюр, педзікюр, падвяла бровы і павекі, нанесла цені. Затым на пальцы былі адзеты пярсцёнкі, а на шыю — залаты ланцужок. Некалькі разоў Вера падыходзіла да люстэрка і з усіх бакоў уважліва аглядала сябе — не дай Бог, калі што-небудзь не так — і чакала тэлефоннага званка.

Ёй, трыццацігадовай жанчыне, стройнай ды прыгожай, пры няўклюдзе мужу, мець такога каханка ўсё роўна, што лавіць рукамі падаючую зорку. Праўда, ужо да яе гэтую зорку шмат хто хапаў рукамі, але яна апякала толькі сэрца і ляцела сваім блудным шляхам далей.

— Слухаю, — у голасе жанчыны адчувалася бязмежная пяшчота.

— Прывітанне, Вярунчык !

— Дзень добры, мілы ! Я ўжо гатова. Я іду. Я лячу на крылах нашага кахання.

Сцяпан Сцяпанавіч сканфужана замармытаў:

— Ты ведаеш... абставіны...

— Што здарылася, любы? Ты едзеш у камандзіроўку?

— Не, ластаўка мая, — Сцяпан Сцяпанавіч шмат ведаў мілагучных ласкавых слоў і ў яго была багатая практыка іх ужывання.

Вера Стрэльчанка сваім чулым жаночым сэрцам адразу здагадалася, што нешта здарылася — і ёй стала страшна.

— Сёння ноччу "Хуткая" прывезла генсека тутэйшага, Крыніцу. Яго размясцілі ў нашай палаце.

Жанчына прагнула кахання і таму нават самыя праўдзівыя тлумачэнні ёй зараз былі непатрэбныя.

— Ну і што ! Дай распараджэнне, каб яго перавялі ў іншую палату.

— На жаль, не магу... Гэта палата ў нас спецыяльна адведзеная для кіраўніцтва раёна. А ён усё ж... зразумей мяне... перавесці яго ў агульную палату на дзесяць чалавек — не магу. Мяне за гэта...

— Крыніцу сёння здымаць будуць. Разумеш. Зды-маць. Ён болей не будзе начальнікам.

— Яно можа ўсё і так, прыгажуня мая, але зразумей мяне правільна: пакуль ён першы сакратар — не-ма-гу...

— Ах, так!

Шчасце, якое для Веры бліснула сонейкам, стала раптам знікаць. Наступіла зацьменне, якое не мог бы прадбачыць ні адзін вучоны, і жанчына запратэставала як магла, як умела.

— Не магу ! А ты пра мяне падумаў! На працы ўсе ведаюць, што я хворая і кладуся ў бальніцу. Суседзі ведаюць, знаёмыя ведаюць, усе ведаюць. Я ўсё разлічыла ...

Жанчына, якой адмовіў мужчына, нават пры самых недарэчных абставінах, падобна на скінутую бомбу, выбух непазбежны. Вера Стрэльчанка яшчэ з паўгадзіны то істэрычна смяялася, то несуцешна плакала ў тэлефонную трубку. У канцы размовы яна пачала пагражаць Улановічу і казаць самыя брыдкія мацюкі, якімі звычайна карыстаўся ў гутарцы яе муж-шафёр.

Кожны чалавек мае поўнае права быць вясёлым. Кожны чалавек мае поўнае права быць злым. Гэта яго асабістая справа, але бываюць выпадкі, калі яны датычыць іншых людзей. І яшчэ як датычыць!

Вось вам прыклад. Калі бывае злым начальнік, то ў калектыва стрэсавы стан. Не шукайце пацвярджэння гэтай ісціне ў падручніках, верце мне на словы.

Адказ тут просты і лагічны, Начальнік таксама чалавек. А калі ён чалавек, гэтак сама, як усе мы, як кожны з нас, можа крычаць, лямантаваць, скандаліць, пагражаць, а то і проста дурэць ці шалець. А вось і схавана гэта самае-самае: ён жа начальнік!

Улановічу было ад чаго шалець. Ён добра ведаў, што жанчына два разы такіх прапаноў не робіць. У гэты момант ён быў самым звычайным чалавекам: не начальнікам, не камуністам, не адукаваным спецыялістам. Зараз Сцяпан Сцяпанавіч забыў усе тыя веды, якія ён набыў на лекцыях па псіхалогіі. Хаця тэорыю псіхааналізу Фрэйда, гэтага буржуазнага сэксуальнага апалагета, ім не выкладалі, але тут яна дзейнічала бездакорна — класічны прыклад.

Напачатку Сцяпан Сцяпанавіч вырашыў паквітацца з тым, каго ён палічыў найбольш вінаватым.

Рыгор Банкевіч, які так і не паспаў гэтай ноччу, сядзеў у пакоі для адпачынку "Станцыі хуткай дапамогі" і рабіў выгляд, што слухае свайго калегу Марыю Сяргееўну, а сам з адкрытымі вачыма драмаў.

Раптам дзверы расчыніліся так рэзка, што са сцен і са столі пасыпалася вапна. Не паспеў Банкевіч належным чынам прачнуцца, як нечыя дужыя рукі схапілі яго і сталі трэсці. У гэтай раённай бальніцы практыкаваў трасун-тэрапію толькі адзін чалавек — галоўны урач Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч.

Ён трос свайго былога сябра, весялуна і шчырую душу — Баніка, як некалі трос у дзяцінстве суседскія грушы, і дзікім голасам крычаў:

— П'яніца! П'яніца! Выганю.

На гэты лямант пазбягаліся ўсе, хто быў непадалёку. Людзей сабралася даволі шмат, але Улановіч ні на каго не звяртаў увагі, а старанна працягваў лячыць свайго падначаленага.

— ... Каб духу твайго не было. Каб не смярдзеў ты тут перагарам сваім. Не было з цябе людзей і не будзе. Выганю!

І ўспомніў тут Улановіч, што гэты самы Банік у студэнцкія гады заляцаўся да яго жонкі, і стаў трэсці яго яшчэ мацней. Увесь гэты час галава ў Банкевіча бездапаможна хісталася, як некалі хісталася верхавіна той грушы, што трос малалеткам Улановіч. Банкевіч з перапуду, не мог сказаць ні слова.

Няведама колькі часу працягвалася бы гэтая лячэбная гімнастыка, калі б не Марыя Сяргееўна, якая рашуча ўступілася за свайго калегу.

— Што вы сабе дазваляеце ... Я вам пакажу, як здзекавацца з чэснага чалавека.

Жанчына схапіла са стала тоўстую кнігу, якую заўжды брала на дзяжурства, але ніколі не чытала, і рушыла наперад.

— Ты ... Ты ... Ты п'яніца, — Улановіч хацеў яшчэ нешта сказаць, але разгубіўся і змоўк.

Банкевіч на хвіліну адчуў паслабленне і вызваліўся з рук свайго масажыста.

Кніга паляцела наўпрост у твар галоўнага ўрача.

— Вы мне не "тыкайце". Я — жанчына. Я магу за сябе пастаяць!

Спрачацца другі раз запар з жанчынаю Улановічу не хацелася. Вынікі такіх спрэчак ён добра ведаў, і таму сардэчная размова між былымі сябрамі на гэтым была закончана.

— Выганю! Выганю! Усіх выганю! — закрычаў Улановіч напаследак і шпарка пакрочыў на выхад.

Банкевіч не мог вымавіць ні слова. Ён не памятаў, як нечыя дужыя рукі пасадзілі яго на канапу, а затым падалі шклянку халоднай вады. Вада наталіла яго смагу, але не супакоіла. Яму зноў захацелася напіцца. Толькі ў гарэлцы ён бачыў сваё выратаванне. "Напіцца толькі цяпер, зараз, у гэты момант, і неадкладна". І гэтаму жаданню чалавека, як пішуць у наш час газеты, альтарнатывы не існавала.

Банкевіч тузануў ручку сейфа, за тоўстымі дзверцамі якога стаялі тыя самыя лекі — спірт. Зачынена. І раптам у такі крытычны момант яму здалося, што ў гэтай сітуацыі ёсць толькі адзін лагічны выхад — самагубства.

... Праз дзесяць хвілін Марыя Сяргееўна знайшла Рыгора Банкевіча ў жаночым туалеце. Ён сядзеў на тым месцы, куды садзяцца ўсе людзі, і істэрычна плакаў. Пад столлю, прывязаны да жалезнай трубы, вісеў абрывак медыцынскага гумавага шланга, які ўсё яшчэ матляхаўся. Другі канец шланга быў завязаны на шыі Банкевіча.

*(Працяг у наступным нумары)*





М. Паляніч

# Тэрміналагічныя выкрунтасы ды іх сутнасць

***Дваццаць гадоў таму да нас на "Паддашак" трапіў з Украіны тэкст, у якім аргументавана зняпраўджваўся адзін з падставовых міфаў савецкай гістарыяграфіі — пра адзіны старажытнарускі народ. Гэты артыкул адразу ж быў перакладзены на нашую мову і памножаны пад капірку дзеля распаўсюджання сярод зацікаўленых людзей. У арыгінале ён не меў аніякіх атрыбутаў, а таму і назоў, і псеўданім, і дата (дзень сканчэння перакладу і рэдагавання) — умоўныя. З увагі на тое, што тэкст і сёння для беларусаў шмат у чым не страціў сваёй актуальнасці, прапануюя яго ўвазе чытачоў "Нашага слова".***

***Зьміцер Санько.***

Канцэпцыя супольнага продка і супольнай спадчыны мусіла б азначаць, што ўсходнеславянская гісторыя IX—XIII стагоддзяў, эпохі Кіеўскай Русі, ёсць адначасова ў аднолькавай меры і рускай, і ўкраінскай, і беларускай (або ні рускай, ні ўкраінскай, ні беларускай, а проста ўсходнеславянскай). На справе ж у афіцыйным тлумачэнні раннефеадальнай гісторыі ўсходніх славян мы маем дзве зусім супрацьлеглыя сітуацыі: атмасферу нацыянальнага патрыятызму, велічнага гістарычнага дзеяння — для рускіх і атмасферу этнічнага небыцця — для ўкраінцаў і беларусаў.

Руская гістарыяграфія, навуковая і папулярная літаратура ніколі не адмяжоўваюць гісторыю рускага народа ад эпохі Кіеўскай Русі і папярэдняга перыяду. Не адмяжоўваюць ні тэрміналагічна, ні канцэпцыйна ў дачыненні не толькі да XIII, але і да VI—XII стагоддзяў. Гэта значыць, што ад першых вераго̶дных пісьмовых згадак пра ўсходніх славян усё для рускіх існуе як рускае, прычым у межах усёй Усходняй Еўропы: руския плямёны, руская зямля, руская дзяржава, рускі народ, руская мова, пачатковы перыяд рускай гісторыі, пачатак рускай дзяржаўнасці, Кіеў — першая руская сталіца, магутная заходнеруская дзяржава (пра Галіцка-Валынскае княства), паўднёварускія стэпы, 1000-годдзе рускай літаратуры, перадмангольская і пасля-мангольская Русь, адзіны рускі народ ад Карпатаў да Волгі і г.д.

Наадварот, украінскі і беларускі чытач савецкай літаратуры на гістарычную тэму пра перыяд да XIV стагоддзя не знойдзе нічога ўкраінскага ці беларускага — ні тэрыторыі, ні мовы, ні культуры, ні ўласнага этнасу. Усе гістарычныя рэаліі існуюць як рускія ці старажытнарускія.

Пануе ў гэтай літаратуры высокі пафас рускага нацыянальнага патрыятызму. Наадварот, на Украіне і ў Беларусі не можа з'явіцца і найменшага тэксту пра Кіеўскую Русь без прыгадвання супольнага продка. Рускія манапалізавалі вывучэнне нашай культуры, асабліва пісьмовай, перад XIV стагоддзем, называючы яе, вядома ж, рускай. Адзіны корань — старажытная народнасць — на практыцы выяўляецца зусім не нашым коранем, а супольны продак — зусім не супольным, а толькі продкам рускага народа.

Кожны з славянскіх народаў вядзе сваю гісторыю ад VI—VII, VII—VIII стагоддзяў, называючы ейны раннефеадальны перыяд сваім уласным этнічным імем. Кожны, акрамя ўкраінцаў і беларусаў. Толькі ва ўкраінскага і беларускага народаў няма ніякіх уласных — украінскіх ці беларускіх — плямёнаў, толькі ў іх да XIV стагоддзя няма ні ўласнай зямлі, ні ўласнай культуры, ні ўласнага гістарычнага жыцця. З волі сучаснай савецкай гістарыяграфіі ўкраінцаў і беларусаў выгналі з раннефеадальнай сям'і славянскіх народаў. Іх "паглынулі" рускія — старажытнаруская народнасць, рускі народ, адзіны рускі народ кіеўскіх часоў.

Пачынаюць спекуляцыяй паняццямі "Русь", "рускі", а канчаюць перакрэсліваннем этнічнай гісторыі Ўкраіны і Беларусі раннефеадальнага перыяду. Старажытнаруская народнасць дэкларуецца як супольны этнічны продак трох усходнеславянскіх народаў. Але на самой справе яна кваліфікуецца толькі як рускі этнас, рускі народ. Калі б гэтыя сучасныя, цалкам адназначныя тэрміны ўжываліся як умоўнае азначэнне гістарычных рэаліяў, азначэнне, якое ідзе ад гістарычных паняццяў "Русь", "рускі", дык і тады яны былі б неапраўданыя і недапушчальныя. Бо звязвалі б усходнеславянскую гісторыю VI—XIII стагоддзяў толькі з рускім этнасам, а паняццямі "ўкраінскі", "беларускі" малявалі б этнаграфічны сэнс.

Пры дапамозе навукова-падобнай ідэі старажытнарускай народнасці афіцыйная гістарыяграфія праводзіць у падтэксце навукова абсурдную думку, што калі б не было татара-мангольскай навалы, дык з усходніх славян утварыўся б адзін народ, зразумела, рускі. А ў гэтым, як пабачым далей, — дарэвалюцыйная чарнасоценная канцэпцыя адзінага рускага народа ад Карпатаў да Ціхага акіяну, адноўленая савецкай гістарыяграфіяй, паводле тэарэтычнай логікі, ужо амаль цалкам. Бо датычна ўкраінскага і беларускага народаў аспрэчваецца агульнапрызнаная структура гістарычна-этнічна-нацыянальнага працэсу, ад якога адсякаецца пачатковы перыяд, перыяд плямёнаў і плямёнавых аб'яднанняў, за якімі не прызнаецца тэндэнцыя да асобнай палітычнай матэрыялізацыі, гэта значыць да стварэння самастойных украінскай і беларускай дзяржаў. Далейшы аналіз канцэпцыі старажытнарускай народнасці яшчэ больш выяўляе ейную палітычную тэндэнцыйнасць і антынавуковы характар.

...Ідэя адзінага ўсходнеславянскага народа IX—XIII стагоддзяў як супольнага продка рускіх, украінцаў і беларусаў мусіла б азначаць, што гэты народ цалкам увайшоў у склад трох усходнеславянскіх народаў. Але гэтага ніхто з савецкіх гісторыкаў не сцвярджае. Вучоныя аднадумна прызнаюць, што ўсходнеславянскія плямёнавыя аб'яднанні, пералічаныя ў нашым пачатковым летапісе "Аповесць мінулых гадоў" — гэта гістарычныя рэальнасці, што не ўся іхная супольнасць ёсць фізічным продкам кожнага з трох усходнеславянскіх народаў, а толькі паасобныя часткі іх. Іншымі словамі, кожны з сучасных усходнеславянскіх народаў мае свае асобныя плямёнавыя задзіночанні VII—X стагоддзяў, уласныя часткі гэтак званай старажытнаруская народнасці, якія і сталіся фізічнай асновай "законных" усходнеславянскіх народнасцяў XIV—XV стагоддзяў. Паводле логікі гэтага факту, трэба было б дзяліць летапісныя плямёны на ўкраінцаў, беларусаў і рускіх нават у тым выпадку, калі б усходнія славяне ў IX—XIII стагоддзях сапраўды складалі этнічную супольнасць.

Гаворка ідзе не пра дагістарычныя этнічныя фармацыі, вызначаныя на падставе археалагічнай культуры, далейшая роля якіх застаецца невядомай, а пра вялікія сучасныя нацыі. Беспасярэднюю сувязь іх насельніцтва, тэрыторый і культур, адпаведных сваім плямёнавым аб'яднанням VIII—X стагоддзяў, ніхто не можа паставіць пад сумнеў. Ніхто таксама не можа сцвердзіць навуковай мовай, што "старажытнаруская народнасць" адчувальна парушыла гэтую сувязь і перамяшала летапісныя плямёны. Насуперак гэтай выразнай і адназначнай навуковай сітуацыі сучасная савецкая гістарыяграфія звязвае летапісныя плямёны толькі з рускім этнасам. Датычна перыяду VI—XIII стагоддзяў яна атаясамлівае паняцці "ўсходнеславянскі" і "рускі", пазбаўляючы ўкраінскі і беларускі народы ўласнага этнічнага карэння ў раннефеадальнай гісторыі ўсходняй славяншчыны і робіць незразумелым з'яўленне ўкраінцаў і беларусаў у XIV—XV стагоддзях.

*23 снежня 1980 года.*

# Генэтыка працуе на Беларусь

У апошні год 2-га тысячагоддзя сусветная навука зрабіла прарыў у вывучэнні чалавека – поўнасцю расшыфравала яго генетычны код. У гэтай справе ўдзельнічалі і расейскія вучоныя, якія зрабілі адкрыцці, што павінны быць узяты на ўзбраенне беларусамі для абароны незалежнасці і мовы беларусаў.

Аб адкрыцці расейскіх вучоных (КП в Белоруссии 30.06.2000 г.) паведаміла адна з удзельніц праекту, кандыдат біялагічных навук, супрацоўнік лабараторыі аналізу геному Інстытуту агульнай генэтыкі імя Н. Вавілава – Наталля Барынская. Для нас цікавая гэтая частка яе інтэрвію: *"Еще одно перспективное направление – это палеогеномика. Генетическое разнообразие показывает родство народов друг с другом. В лабаратории Янковского проводились исследования русских, марийцев и татар. Оказалось, что по материнской линии они имеют общих предков в прошлом. Хотя татарский язык относится к тюркской группе, а российский – к славянской".* Другімі словамі, вучоныя – генэтыкі пацвердзілі вывады вучоных – гісторыкаў аб пераважнай ролі татара-манголаў у фармаванні расейскага народа. Аб гэтым у 20-х гадах ХХ стагоддзя распавядаў расейскі прафесар Н.С.Трубецкой, адзін із дзеячоў гістарычнай школы "еўразійцаў": *"...Московское государство возникло благодаря татарскому игу. Русский царь явился наследником монгольского хана: "свержение татарского ига" свелось з замене татарского хана православным царем и к перенесению ханской ставки в Москву. Произошло обрусение и опровославливание татарщины и московский царь оказался носителем этой новой формы татарской государственности".* "Еўразіец" Н.В. расшыфраваў: *"В исторической перспективе то современное государство, которое можно назвать и Россией и СССР, есть часть великой монгольской монархии, основанной Чингисханом".*

Беларусы адбіліся ў свой час ад татараў. Нават вызвалілі ад татарскага іга украінцаў у 1362 годзе ў бітве пры Сініх Водах. Але потым, ужо ў канцы ХУІІІ стагоддзя, трапілі ў гэтую імперыю, якую акрэслілі "еўразійцы". Цяпер фармальна мы незалежныя ад Расеі, але расейцы зноў хочуць уцягнуць нас у яе. Трэба назапашваць ідэалагічныя аргументы.

Абрусенне татаршчыны ішло ў выніку таго, што качавыя татарскія орды асядалі на славянскіх землях, як, напрыклад, на зямлі Вячка, брата Радзіма на Разанскай зямлі. Касімаўскія татары тут заснавалі г. Касімаў. Хрышчаны хан Касімаўскай арды Сямён Бекбулатавіч атрымаў нават ад Івана IУ ярлык "Великий князь всея Руси". Раней маскоўскія валадары ездзілі самі ў сталіцу Арды і вымальвалі для сябе гэты ярлык. Часы змяніліся. Але гэты Сямён Бекбулатавіч, пабыўшы "Великим князем всея Руси", праз два гады адпраўляецца на кармленне ў Цвер і Таржок – пры дапамозе расейскіх цароў прасоўвае сваю арду ў глыбіню славянскіх зямель.

Горад Тула заснаваны і названы ў гонар татарскай царыцы Тайдулы.

Прыблуды Рурыкавічы больш даверялі татарам, чым славянам. Іван III, ідучы рабаваць Ноўгарад, пакідае "управлять землею и стеречь Москву" татарскага царэвіча Муртазу, яшчэ, нават, няхрышчанага. Праваслаўная епархія ў сталіцы Залатой Арды ўжо была.

А. Пушкін, збіраючы матэрыялы на кнігу пра Пятра І, зацікавіўся яго ўказамі: *"Объявить казанским и азовским магометанянам (владельцам крестьян) повеление креститься через полгода, а коли не пожелают, описывать дома и крестьян в казну егс".* Думаю, што усе "магометаняне" пажадалі стаць праваслаўнымі і рускімі. Куды дзенешся? Ці яшчэ: *"За утайку в переписи мордву и черемис прощать, если окрестятся".*

Сам Аляксандр Сяргеевіч пісаў у 1830 годзе, праз 450 год пасля Кулікоўскай бітвы: *"... я по горло сыт Москвой и её татарским убожеством".* Масква ў тыя часы так і засталася татарскім горадам, а не славянскім і не еўрапейскім.

Правячыя вярхі Расеі ўсведамлялі, што яны абрусеўшая і апраслаўленая татаршчына. Пётр І заснаваў новую сталіцу далей ад Масквы, бліжэй да Еўропы. Кацярына ІІ, каб знішчыць памяць аб татаршчыне, разбурыла сталіцу Залатой Арды – Сарай-Бату, заснаваную яшчэ ханам Батыем. І доўга расейскі генерал ганяў конніцу па тым месцы, каб зраўняць усё з зямлёй. Але ўсё застаецца ў менталітэце і свядомасці народа. Той жа Мітрафанаў (намеснік Жырыноўскага па ЛДПР) абаснаваў нядаўна лозунг: "Вся власть Путину!" тым, што Расея – азіяцкая дзяржава і расейцы – азіяты.

І фактычна расейцы ў умовах дэмакратыі Ельцына адчувалі сябе няўтульна. Пры невялікіх намаганнях Пуціна Расея зразу, паслухмяна перабудоўваецца ў прывычную ёй Арду, каб было ўсё зразумела і проста: хан, мурзы і мурзаценькія – і нікуды ў бок.

Гэта, канешне, іх справа, але трэба, каб яны пакінулі нас у спакоі са сваім "единением". Няхай для "единения" выберуць Кітай. Ён таксама быў часткай імперыі Чынгісхана.

Пасля перапісу насельніцтва 1989 года мяне вельмі ўразілі лічбы дыскрымінацыі беларусаў у Беларусі. На 100000 чалавек насельніцтва Беларусі дактароў навук сярод беларусаў было 6 чалавек, сярод расейцаў – 33 чалавекі, сярод іншых нацыянальнасцяў – 34 чалавекі. Кандыдатаў навук было адпаведна 93, 398 і 296 чалавек. У органах дзяржкіравання ад ліку працаздольных беларусы складалі 3,8%, расейцы – 7,8%, іншыя – 8,2%. Вядома, што расейскія камуністы вельмі кантралявалі гэтыя працэсы. Значыць, праводзілася свядомая дыскрымінацыя беларусаў на сваёй зямлі. Магчыма, гэта адбывалася таму, што не адчувалася славянская салідарнасць, бо яна не магла быць. Цяпер гэтыя хлопцы зноў пяюць лазара – "единение, славяне, русь, православие".

Пагэтаму мы павінны ўзяць на ідэалагічнае ўзбраенне найноўшыя адкрыцці ў палеогеноміцы і разабрацца дэталёва ў тэорыі "еўразійства" расейскіх вучоных – гісторыкаў. Правясці свае даследванні і напісаць сваю гісторыю беларусаў і расейцаў, каб нам суседзі не вешалі лапшыну на вушы. У сваёй гісторыі трэба высветліць, ці мае грунт тэорыя накшталт таго, што татара-мангольская імперыя аб'ектыўна распалася, як імперыя качавых народаў. Але асеўшы і на часцы славянскіх зямель, яны эканамічна ўмацаваліся. Узяўшы на ўзбраенне тэорыі рускасці, славянскасці – у тым ліку і мову праваслаўя, правёўшы змены ў летапісах у пачатку ХУІ стагоддзя, абгрунтаваўшы "правы" на славянскія землі, на гэтым другім дыханні пачалі новую экспансію на славянскія землі, захапіўшы ў канцы ХУІІІ стагоддзя і Літву-Беларусь. У канцы ХХ стагоддзя гэтая імперыя зноў развалілася з-за тэорыі і практыкі няволі, жорсткасці і нахабства і няўмення гаспадарыць.

Ізноў многія пад відам славян хочуць загнаць нас у гэтую імперыю, заснаваную Чынгізханам.

Нічога не атрымаецца! Нават навука генэтыка працуе на Беларусь.

*14.01.2001 г.*

*А. Блінкоўскі*

# ГЭТА БЫЛО НЕ ТАК

Прачытаў я ў "Нашым слове" (№47, 2000 г.) артыкул Васіля Цярэшкі "Па Коласавых мясцінах на Коласавых машынах". Баюся, каб адно сцверджанне з гэтага артыкула, падхопленае чытачамі, не стала пашыраным. Таму і ўзяўся за пяро.

Нагадаю, што гаворка ідзе пра разгул сталінскага тэрору ў трыццатыя гады. Якуб Колас і Янка Купала, як піша В. Цярэшка, *"тры гады клаліся спаць не распранаючыся, чакалі, калі па іх прыйдуць"*. Аднойчы кіраўнік беларускага наркамата ўнутраных спраў *"паклаў на стол першаму сакратару ЦК КПБ Панамарэнку ордэр на арышт беларускіх пісьменнікаў, у першых шэрагах якіх ішлі Купала і Колас. Штосьці затрымала руку Панамарэнкі, ён адразу не падпісаў чорны спіс, папрасіўшы пачакаць да панядзелка. Пэўна, праца кіраўніком рэспублікі ва ўмовах таталітарызму не пазбавіла яго рэшткаў чалавечнасці... Панамарэнка хутка выпраўляецца з паперай у Маскву. Нейкім чынам яму ўдаецца прабіцца да Сталіна... Сталін доўга пыхаў сваёй люлькай, нарэшце сказаў сваю сакраментальную фразу: "Ордэры на арышт я замяняю ордэнамі". Так бацька народаў падараваў жыццё нашым класікам, узнагародзіўшы ордэнамі Леніна..."*

Тут усё як у казцы. У гэтым міфе Панамарэнка (родам з Краснадарскага краю) паўстае, як анёл, а Сталін – як добры бог і збавіцель. На самай жа справе ўсё было інакш. Пра гэта адназначна сведчаць апублікаваныя ў першай палове 90-х гадоў сакрэтныя дакументы з фондаў былога партыйнага архіву.

Чарговы сталінскі стаўленнік у беларусі П.К. Панамарэнка прыбыў з Масквы ў Менск 18 чэрвеня 1938 года. За ліпень-жнівень, не без ведама гэтага самага высокага партыйнага кіраўніка, было арыштавана пяць з паловай тысяч чалавек. Праз месяц пасля прыезду ў Менск Панамарэнка пасылае сакрэтную шыфроўку Сталіну, Яжову, Андрэеву: "... Дабіваюся разгляду ў несудовым парадку на асобай тройцы дзве тысячы па першай катэгорыі і тры тысячы па другой". Першая катэгорыя – гэта бальшавіцкі эўфемізм у сэнсе "расстрэл", а другая катэгорыя – дзесяць гадоў канцлагераў.

Са згоды гэтага ж "анёла" 13 кастрычніка арыштавалі Кузьму Чорнага і восем месяцаў катаваннем дамагаліся, каб ён "асвятляў дзейнасць беларускіх пісьменнікаў". Незадоўга перад заўчаснай смерцю К. Чорны ў сваім "Дзённіку" пакінуў запіс: "У яжоўскай турме ў Менску ўвосень 1938 г. мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі..."

21 лістапада 1938 года Панамарэнка піша Сталіну вялізны сакрэтны ліст "О белорусском языке, литературе и писателях". Гэты жахлівы дакумент 15 кастрычніка 1993 года апублікавала на сваіх старонках "Літаратура і мастацтва". Панцеляймон Кандратавіч, у прыватнасці, нібы скардзіцца: *"НКУС Беларусі запрасіў з цэнтра санкцыю на арышт Купалы і Коласа ўжо даўно, а санкцыя пакуль што не дадзена"*. Паведамляе *"бацьку Сталіну", што маюцца шматлікія паказанні "выкрытых і арыштаваных ворагаў", якія абвінавачваюць Купалу і Коласа "аж да сувязяў з польскай дэфензівай. У дачыненні да Янкі Купалы ёсць 41 паказанне, у боль-шасці прамыя; Якуба Коласа – 31 паказанне"*.

Яшчэ толькі некалькі ўрыўкаў з гэтага дакумента: *"Янка Купала нядаўна сказаў: "Усе нашы карты біты, лепшыя людзі вынішчаны, трэба самому рабіць харакіры". (Ён ужо спрабаваў аднойчы пакончыць з сабой.) У другі раз ён пачаў скардзіцца (у сваім асяроддзі) на нястрымную тугу на тое, што ніякай Беларусі ён не бачыць вакол сябе, што ён хутка памрэ з такім жа смуткам аб Беларусі, з якім пачынаў сваё жыццё ў маладосці... Янка Купала гаворыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі. Яны гавораць, што цяпер літаратура зведзена да ролі прыдатка, растлумачальнага ці ўсхваляльнага, што гэта не творчасць, а ілюстрацыя. У літаратуры нельга нічога ставіць або вырашаць, бо партыя ўсё ўжо вырашыла на шмат гадоў наперад, план складзены, і ілюструй тое, што прайшло"*.

Кампрамат, як бачым, забойчай сілы, Але Панамарэнка разумеў тагачасную складанасць унутраных і міжнародных абставін і тое, што ён мае справу не абы з кім, а з Янкам Купалам і Якубам Коласам, якія "карыстаюцца папулярнасцю, праславілі іх вельмі моцна". Таму і просіць Сталіна даць параду "аб адносінах да пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа". Сам жа выказваў дваякае меркаванне: *"Іх трэба або арыштаваць, або, улічваючы абставіны, прыняць, пагаварыць шчыра, паказаць, што нам вядомыя ўсе іх "памылкі", калі гэта дапушчальна так назваць, сказаць, што яны могуць выкупіць сваю віну перад Савецкай уладай, калі ў якойсьці меры пойдуць на гэта, то скарыстаць у мэтах разлажэння групы, адрыву найбольш сумленных і ліквідацыі рэшткаў нацдэмаўшчыны"*.

Газета "ЛіМ", публікуючы памянёны ліст, пісала, што гэты дакумент уносіць пэўныя карэктывы ў даволі распаўсюджаную версію аб ратаванні Панамарэнкам Купалы і Коласа.

Панамарэнка пісаў свой ліст 21 лістапада 1938 года, а Указ "Аб узнагароджанні савецкіх пісьменнікаў" апублікавалі 1 лютага 1939 года. Тут у ліку 172 асоб з усяго Савецкага Саюза былі і прозвішчы Купалы ды Коласа. Самі ж ордэны Леніна Купала і Колас атрымалі не ад Панамарэнкі, а з рук "усесаюзнага старасты" Калініна праз месяц пасля Указа.

Гэтыя ўзнагароды маюць сваю гісторыю. 26 снежня 1938 года, у сувязі з 20-годдзем БССР, у Крэмль было накіравана (за подпісам Панамарэнкі) хадатайніцтва аб узнагароджанні 40 чалавек "за заслугі перад радзімай". Былі ў спісе Купала і Колас. На гэты раз Панамарэнка характарызаваў іх ужо як народных паэтаў рэспублікі, класікаў беларускай літаратуры, якія "за гады Савецкай улады напісалі шэраг выдатных савецкіх твораў". Аднак да дваццацігадовага юбілею БССР нікому не далі ордэнаў. Масавае ўзнагароджанне прадстаўнікоў з усіх савецкіх рэспублік прымеркавалі да "гістарычнай" даты – у гонар адкрыцця ХУІІІ з'езду ВКП(б). На пачатку лютага адзін за адным друкуюцца Указы аб узнагародах. Пасыпаліся ордэны пісьменнікам, работнікам кіно, метрабудаўцам, перадавікам сельскай гаспадаркі і г.д.

Як бачым, легенда пра тое, што былі заменены ордэры на ордэны, не вытрымлівае ніякай крытыкі.

В. Цярэшка, апісваючы аўтарэтрападарожжа па Коласавых мясцінах, добрым словам успамінае экскурсавода – "латышку па нацыянальнасці з цудоўным веданнем беларускай мовы". Ці не ад яе ён і запазычыў гэтыя міфічныя звесткі пра ордэры і ордэны? А яшчэ і наступнае: *"... узнагародзілі ордэнамі Леніна, а на грашовую прэмію Якуб Колас і Янка Купала атрымалі навюткія аўтамабілі савецкай вытворчасці: дзве чорныя "Эмкі", ГАЗ-М-І. Дарэчы, на Коласавай "Эмцы" сем'і Купалы і Коласа ад'язджалі з палаючага Менску ў канцы чэрвеня 1941 года"*.

І тут усё гэта таксама няпраўда. Пра якую "грашовую прэмію" ідзе размова? Ніякіх прэмій ардэнаносцам не давалі. Была толькі нязначная штомесячная грашовая плата за ордэн. Машыну за яе не купіш.

Каб задобрыць Янку Купалу і ператварыць у прыдворнага паэта, яго ў другой палове 30-х гадоў робяць членам ЦВК БССР, дэпутатам гарадскога, а пасля і Вярхоўнага Савета БССР, адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў. Яшчэ ў 1935 годзе Галадзед падпісаў урадавую пастанову "ўзнагародзіць народнага паэта рэспублікі т. Янку Купалу легкавым аўтамабілем (за каштоўнасць яго апошніх твораў, у прыватнасці паэмы "Над ракой Арэсай") і ў тым самым годзе – пастанову "Аб прыняцці на ўтрыманне за кошт дзяржавы дома і аўтамашыны і аб пабудове дачы для народнага паэта Янкі Купалы".

Не "на Коласавай "Эмцы", а на сваёй машыне з асабістым шафёрам Яртымікам (гэта прозвішча сустракаецца ў пераліку тых вадзіцеляў-супрацоўнікаў НКУС, што вывозілі зняволеных з Мінскай турмы на расстрэл у Курапаты) ад'язджаў Я. Купала *"з палаючага Менска"*. І не *"ў канцы чэрвеня"*, а ў той самы дзень, калі пачалася вайна. Яна застала паэта ў Каўнасе. Вярнуўшыся цягніком адтуль, Купала разам з жонкай у той жа дзень выехаў на Аршаншчыну, у Ляўкі, дзе была паэтава дача.

А эвакуацыю Я. Коласа можна па праву назваць адысеяй. Пра яе ён распавёў у апублікаваным лісце М. Лынькову: *"Я выехаў з Менска вечарам 24 чэрвеня, калі агонь падбіраўся пад маю хату. Шафёра ў мяне не было, забралі па мабілізацыі. Вывез мяне нейкі хлопец. Завёз у лес пад саўнаркамаўскую дачу, а сам паехаў вывозіць сваю сям'ю... Не дачакаўся я ні яго, ні машыны... Машына стукнулася з другой машынай і загінула... Паначавалі (з сям'ёй) у лесе... Пайшлі пехатой на паўстанак, адтуль у Калодзішчы. З Калодзішч пад вечар выехалі ў Оршу... Пад вечар прыслаў Янка сваю машыну – ён выехаў загадзя на дачу. Паначавалі ў яго. Потым у Копысі прысуседзіліся да грузавіка, што ішоў з Гродна, і так ехалі да Калініна, а адтуль поездам да Масквы..."*

**Іван Лепешаў,**
***прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.***

# ШЛЯХАМ БАРЫСА КІТА

Пад такой назвай з красавіка 2000 г. пачала рэалізавацца ідэя конкурсу, прысвечанага 90-годдзю з дня нараджэння сусветнага вядомага беларуса, акадэміка міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ-прэзідэнта міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Барыса Уладзіміравіча Кіта.

Мэта конкурсу – азначэнне і пашырэнне даследванняў і пошукаў моладзі (школьнікаў, навучэнцаў ПТВ, студэнтаў першых курсаў сярэдніх і вышэйшых навучальных устагноў) у галіне беларускамоўнага вывучэння матэматычных дысцыплін, гісторыі і геаграфіі Беларусі, стварэння адпаведных метадычных дапаможнікаў, афармлення спецыялізаваных класных памяшканняў і экспазіцый музеяў навучальных устаноў. Асаблівая ўвага ўдзельнікаў конкурсу звяртаецца на адлюстраванне жыцця і дзейнасці настаўнікаў, выкладчыкаў, якія спалучалі ў сваёй педагагічнай дзейнасці высокае прафесійнае майстэрства і карыстанне беларускай мовай, выхоўвалі патрыётаў роднага краю, былі аматарамі краязнаўчай працы, школьнага музеязнаўства.

Конкурс распаўсюджваецца на рэгіёны Беларусі, дзе пралягаў драматычны і высокародны жыццёвы і педагагічны шлях Барыса Кіта: Карэліцкі, Навагрудскі р-ны Гарадзенскай вобласці, Баранавіцкі раён Берасцейскай вобласці, Маладзечненскі раён і г. Маладзечна Менскай вобласці, Пастаўскі і Глыбоцкі раёны Віцебскай вобласці.

Зацікаўленых асобаў і прадстаўнікоў школ і ўстаноў сістэмы прафесійнай адукацыі просім прыслаць заяўкі з паведамленнем дакладнага адрасу, спісу ўдзельнікаў конкурсу, тэмы конкурснай працы **да 1 сакавіка 2001 г. на адрас: г. Гродна, 230023, а/с 22 з пазнакай "Конкурс".**

# Згадаем праз дзесяцігоддзі

75 гадоў таму па ініцыятыве Пятра Якаўлевіча Сяўрука ў Скідалі быў створаны гурток Таварыства беларускай школы, які дзейнічаў аж да 1939 года, калі Заходнюю Беларусь далучылі да Савецкай. З 25 яго сяброў да гэтага часу дажыла Марыя Якаўлеўна Мазалеўская – родная сястра Пятра, якой з кастрычніка 2000 года пайшоў 93 год. Нягледзячы на такі ўзрост, у старажылкі нашага горада добра захавалася памяць аб падзеях таго далёкага часу. У яе асабістай бібліятэцы да гэтай пары захаваліся некаторыя кніжкі, якія належалі гурткоўцам. Марыя Якаўлеўна хоць дрэнна бачыць, але калі ні зойдзеш, дык можна застаць яе за перагортваннем каштоўных сямейных рэліквій. "Калі я іх гартаю, - гаворыць Марыя Якаўлеўна, дык як бы вяртаюся ў мінулае гістарычнае, якое адыграла важную ролю ў адстойванні беларускасці і права на родную мову".

- З першых дзён існавання гурткоўцы, - гаворыць Марыя Якаўлеўна, - заняліся стварэннем бібліятэкі ў хаце майго бацькі, якая добра захавалася да гэтага часу па вуліцы 17 Верасня. Кніжкі збіралі ў насельніцтва мястэчка і навакольных вёсак. Перыядычныя выданні, якія друкаваліся на роднай мове ў Вільні, выпісвалі за кошт грашовых сродкаў гурткоўцаў. Сярод кніжнага фонду былі творы пісьменнікаў Л.Талстога, А.Пушкіна, Э.Ажэшкі, Я.Купалы, Я.Коласа, В.Дуніна-Марцінкевіча, М. Багдановіча і іншых.

У аўтара гэтых радкоў дасюль захавалася кніжка 1872 года выдання на рускай мове, у якой яе аўтар У.Д.Спасовіч упершыню раскрыў жыццёвы і творчы шлях А. Міцкевіча праз 10 гадоў пасля яго смерці. І гэта ён зрабіў адзін з першых.

- Да гэтага часу памятаю, - працягвае Марыя Якаўлеўна, - як мы падрыхтавалі чарговы спектакль і выступілі з ім у вёсцы Баброўня, на радзіме вядомага паэта Гарадзеншчыны Міхася Васілька (Міхаіла Восіпавіча Касцевіча), 95-годдзе з дня нараджэння якога адзначылі ў лістападзе 2000 года. Пасля заканчэння спектакля нечакана на сцэну выйшаў у саматканых нагавіцах вясковец і стаў чытаць верш "Як я пана перавёз". Мы тады не ведалі нічога пра Міхася. Пасля заканчэння верша прысутныя адарылі яго бурнымі апладысментамі і прасілі паўтарыць верш. Міхась даў згоду і чытаў яго яшчэ некалькі разоў. Ён гэта рабіў з вялікім задавальненнем.

Пераемніцай былой бібліятэкі скідальскага гуртка Таварыства беларускай школы з'яўляецца гарадская бібліятэка № 1, у якой многія гады добрасумленна працуюць Надзея Габаян і Ніна Гамулецкая. Па іх ініцыятыве створаны альбом гісторыі ўзнікнення бібліятэкі, які выстаўлены на кніжнай паліцы чытальнай залы.

***Ілья Барысаў, краязнаўца, Гарадзенскі раён.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 19. 02. 2001.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 475
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
***Кошт у розніцу:*** 70 руб.